Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
15 сакавіка 2001 г.
№ 11 (507)
Кошт 85 рублёў

## Куды падзеліся грошы?

**Калі некалькі месяцаў таму валюту ў Гродне можна было купіць у любым абменным пункце горада без праблемаў, то сёння сітуацыя іншая. Вырашыўшы купіць некалькі даляраў, мы сутыкнуліся з непераадольнымі цяжкасцямі.**

Каля «абменніка» Беларусбанка ў гандлёвым доме «Баторыя» - невялікая чарга, якая вось ужо хвілінаў 40 не зрушылася з месца. Усе паглядзелі на нас з надзеяй - ці не здаем, часам, даляры?

У іншым абменным пункце ў Беларускім індустрыяльным банку, што месціцца ў будынку Аблсаўпрафа, людзей зусім не было. Даляраў, заўважым, таксама. Ветлівая касірка адмоўна пакруціла галавою, маўляў, няма на дадзены момант (13 сакавіка) валюты, прадалі каля чатырох тысяч даляраў, і гэта пры курсе Нацбанка: набыццё - 1250 рублёў, продаж - 1286 беларускіх рублёў. А цяпер ужо няма, таму што канец рабочага дня (было 15.45).

У гандлёвым доме «Нёман» сітуацыя зусім агрэсіўная. Каля валютнага шапіка - даўжэзная чарга - чалавек з 25. Купіць даляры проста немагчыма.

А вось у валютчыкаў ёсць усё: і маркі, і даляры, і рублі. І курс у іх больш выгадны. Набыццё аднаго даляра ЗША - 1280, продаж - 1310 беларускіх рублёў.

**Алеся Бяленік, Вікторыя Станкевіч**

## Не пусцім яшчур на Беларусь!

**На памежных пераходах Гарадзенскай вобласці ўсталяваны дэзінфекцыйныя бар'еры з мэтай папярэджання завозу ў краіну мясной прадукцыі, заражанай вірусамі яшчуру і каровінага шаленства. Неабходнасць прыняцця такіх мераў узнікла з-за небяспекі пранікнення ў краіну гэтых страшных хваробаў.**

Як паведамілі нам у Гарадзенскай і Ваўкавыскай памежных кантрольна-ветэрынарных службах, часовыя дэзінфекцыйныя бар'еры для спецапрацоўкі грузаў, якія накіроўваюцца з-за мяжы праз тэрыторыю Беларусі ўсталяваны на памежных пераходах «Брузгі», «Пагранічны» і «Прывалка». Яны ўяўляюць сабою насыпы з пілавіння, прапітанага дэзінфекцыйным растворам, даўжынёй шэсць-восем метраў і шырынёю ў два-тры абароты кола.

Адпаведна словам загадчыка Гарадзенскай памежнай кантрольна-ветэрынарнай службы Івана Валюшкі, дэзінфекцыйныя бар'еры - гэта не адзіная мера, якая прымаецца ў сувязі з узніклай небяспекай. Узмоцнены кантроль за перавозкамі мясной прадукцыі, якую вязуць у Расею транзітам праз Беларусь. Сярод краінаў, з якімі гандлюе зараз Расея, наш суразмоўца назваў Бельгію, Германію, Францыю, Гішпанію. Што ж тычыцца Беларусі, то, паводле звестак Івана Валюшкі, з мясной прадукцыі мы атрымоўваем з-за мяжы толькі польскую свініну. Таму пранікненне на тэрыторыю Беларусі мясапрадуктаў, заражаных вірусамі яшчуру і каровінага шаленства, малаверагодна.

**Рэгіна Станкуце**




**15, 16 сакавіка** - воблачна, з праясненнямі, месцамі - ападкі, туман, вецер усходні, слабы. Тэмпература паветра **15, 16 сакавіка** ўначы -3...+2, удзень +3...+8.

**Сямён Мікалаевіч Домаш - былы старшыня Гарадзенскага аблвыканкама. Адзіны з губернатараў, які адкрыта перайшоў на бок беларускай апазіцыі. Адзін з магчымых кандыдатаў ад дэмакратычных сілаў на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах.**

# Сямён Домаш пра палітыку і не толькі...

*- Як думаеце, Сямён Мікалаевіч, пусціць Вас на беларускае тэлебачанне?*

**Домаш засмяяўся. Я таксама.**

**Недарэчна задаваць пытанне, адказ на якое відавочны. Вось гісторыя з сынам Чыгіра - які дзень Міхаіла Мікалаевіча з-за яе на БТ ганьбяць, а далі яму хоць слова сказаць у адказ? У тым і справа... Чаму Домаш на іншыя адносіны павінен разлічваць? Ён зараз з Чыгірам і Ганчарыкам у адной катэгорыі - паскудныя нягоднікі, якія адважыліся заявіць, што на прэзідэнцкіх выбарах маюць намер спрачацца з самім Аляксандрам Рыгоравічам. Ужо таму падлягаюць камандзе «Мочить в сортире!»**

**Добра, няма чаго чакаць літасці ад прыроды. Проста ў такой сітуацыі мы лічым сваім маральным абавязкам зрабіць тое, што па логіцы павінны зрабіць дзяржаўныя СМІ, якія ўтрымліваюцца на грошы падаткаплацельшчыкаў (і, такім чынам, абавязаныя быць аб'ектыўнымі): даць выказацца аднаму з патэнцыйных кандыдатаў на прэзідэнцкую пасаду.**

**І вось уключаем дыктафон - а вы пра майго суразмоўцу мяркуеце самі.**

*- І ўсё-ткі Вас, Сямён Мікалаевіч, пакуль меней чым іншых «дзяўбуць». Як думаеце, чаму?*

- Відаць, чарга не дайшла. Ці кампрамат яшчэ не накапалі. Яны ж адкрытай размовы баяцца, аддаюць перавагу правакацыі спадцішка. А не знойдуць нічога - прыдумаюць.

*- Значыць, удараў чакаеце?*

- Асабіста я па ўсіх пазіцыях чысты. Ну, была гісторыя з домам, з-за якой мае імя доўга бузавалі, але ж абвінаваціць у нейкіх учыненых мною парушэннях так і не здолелі. (У бытнасць старшынём Гарадзенскага аблвыканкама Домаш са сваёй сям'ёю па патрабаванні органаў КГБ і МУС, што ажыццяўлялі яго ахову, здаў гораду сваю раней прыватызаваную кватэру і перасяліўся ў дом. Калі Лукашэнка пазбаўляўся ад чыноўнікаў, на якіх не мог разлічваць асабіста, гэтая гісторыя Сямёну Мікалаевічу была пастаўленая ў віну. І хаця высветлілася, што да самога Домаша прэтэнзіяў быць не можа - шэпт застаўся: ці то ён шубу скраў, ці то ў яго скралі... - заўв. рэд.). Не, шчыра кажучы, калі зноў гісторыю з домам вывалакуць, можна толькі радавацца - значыць, усё ў парадку: ні па мне, ні па маіх сваяках больш зачапіцца ні за што не здолелі. І давядзецца ім нешта з пальца высмоктваць. А я... Мне за сваё жыццё не соромна.



Сямён Домаш

## «Мне за жыццё не сорамна...»

*- Ну тады давайце «за жыццё» і пагаворым. Вы нарадзіліся ў 1950 годзе ў Берасцейскай вобласці, у Ляхавіцкім раёне...*

- ...у вёсцы Тумашы. Бацькі - шэраговыя калгаснікі, працаўнікі надзвычайныя... Бацька займаўся цяслярствам. Ён з фронту прыйшоў інвалідам, увесь зранены, без вока, але майстрам быў цудоўным. Грошай вялікіх у калгасе не плацілі, выручаў сад - бацькоўскімі намаганнямі кожны год збіралі выдатныя ўраджаі. І потым бацька аж да Масквы дабіраўся, яблыкі прадаваў. Усё, што зарабляў, адкладалася на новы дом, бо наша хата зусім развальвалася. Вельмі доўга адкладвалася, па капейчыне. Нарэшце - я тады быў у шостым класе - пачалі будавацца. Гэта галоўны ўспамін дзяцінства - мы разам з бацькам будуем дом! Вельмі цяжкая, з салёным потам, але радасная праца. Я практычна ўсё навучыўся рабіць. Пазней куды б ні перазджаў - ні сантэхнікаў, ні сталяроў-маляроў ні разу не клікаў. Любая хатняя справа - сваімі рукамі. І сыноў таму ж навучыў.

Бацькоўскі дом дагэтуль адзін з лепшых у вёсцы. Бацька, на жаль, ужо год як памёр. Маці старэнькая, часта хварэе, жыве ў сястры ў Баранавічах, але ўлетку мы яе ў Тумашы прывозім. І, як веснічкі адчыняю, мне кожны раз падаецца, што на падворку зноў пахне свежай смалістай стружкай.

*- А што было потым?*

- Пасля школы я паступіў у Бабруйскі аўтатранспартны тэхнікум. Вучыўся на механіка па рамонту аўтамабіляў. Там жа навучыўся абараняць сябе, боксам заняўся. Бабруйск жа тады быў даволі хуліганскім горадам.

Скончыў тэхнікум, паехаў па размеркаванні ў Астравец, што ў Гарадзенскай вобласці. Механікам аўтабазы N4. Увогуле працаваў там больш за восем гадоў. У Астраўцы і ажаніўся, жонка ў Доме культуры працавала. Дваццаць гадоў мне было.

*- Рана...*

- Што значыць - «рана»?.. Я ўжо ж не пацан быў! Зменны механік, сур'ёзны чалавек. Зрэшты, адчуванне юнацтва з-за сур'ёзнасці працы неяк знікла. Людзей не хапала, так што час ад часу перакідвалі то ў механікі кантрольна-прапускнога пункту, то выконваючым абавязкі загадчыка гаража, то забеспячэнца... Наша аўтабаза займалася яшчэ і аўтобусным абслугоўваннем раёна. 27 машынаў, з іх 23 (чатыры ў рэзерве) кожную раніцу кроў з носу павінны выйсці на лінію. Пры гэтым ва ўсім раёне толькі дзвеясць (!) кіламетраў добраўпарадкаваных дарог. Увечары 19-20 машынаў ледзьве чыкільгаюць - зноў рысоры «накрыліся». А ў цябе вячэрняя змена, і зразумела, што не ўправішся - зноў давядзецца сваіх мужыкоў-рамонтнікаў пакідаць на начную. А мужыкі не хочуць! Праца ў іх цяжкая, брудная, няўдзячная, хтосьці ў закутку ўжо свае 100 грамаў прыняў, нехта прыняць настроіўся. Ці проста ў чалавека жонка ў шпіталі ды дзеці малыя дома. Да таго ж, аўтабаза новая, кадраў не хапае, памяшканні непрыстасаваныя, механізацыі практычна ніякай, боксы і ямы - усё на жывую нітку. Прычым, табе - 19 гадоў (на той час). І кожны з дзядзяў-слесараў у любы момант гатовы выказаць, што ён думае і пра начную змену, і пра сваё жыццё, і пра цябе асабіста...

*- А што Вы?*

- Ну што - я? Заваёўваў аўтарытэт. Уласным прыкладам. Бярэш ключы і лезеш пад аўтобус. З кімсьці даводзілася і інакш...

*- Гэта як?*

- Вельмі проста... Мужчынская размова. Увогуле, на месца ставіў... Але гэта крайняя мера. Механік у рабочых сапраўднай павагі можа дамагчыся толькі адным шляхам: за чужыя спіны не хавацца, гарбаціцца нароўні з усімі, пры гэтым ведаць крыху болей за астатніх. Я так і працаваў. Нават зараз у любой айчыннай машыне магу па гуку рухавіка вызначыць характар няспраўнасці. Ды і ў іншамарках таксама. Вельмі многаму навучыўся ў тых жа слесараў. Былі ў нас такі Мячыслаў Ждановіч, высокакласны матарыст-самавучка - дагэтуль яго ўзгадваю.

Наогул, у хуткім часе стала ў мяне нармальная, дысцыплінаваная змена. Людзі не пілі, працавалі зладжана. І ўся аўтабаза ведала: у Домаша машыны выйдуць на лінію своечасова, рамонт будзе якасны. Потым пачаўся больш сур'ёзны перыяд у працы і ў жыцці. Тут хачу назваць яшчэ адно імя: Іван Пятровіч Еўтуховіч. Вы яго абавязкова ўзгадайце, таму што Іван Пятровіч памёр ужо, а на добрых людзей забывацца нельга. Гэта быў дырэктар нашай аўтабазы. Калі спытаеце, хто для мяне ўзор кіраўніка, я два прозвішчы назаву: Еўтуховіча і Леаніда Герасімавіча Кляцкова, у 80-я гады - першага сакратара Гарадзенскага абкама КПБ. Вось гэта былі лідары! Разумныя, справядлівыя, дасведчаныя. Але з Кляцковым мяне пазней лёс звёў, а зараз - пра Івана Пятровіча Еўтуховіча. Ён прапанаваў мне выконваць абавязкі галоўнага інжынера аўтабазы. Прычым, я ганаруся не тым, што ў 21 год так імкліва «ўзляцеў», а тым, што менавіта Еўтуховіч мяне сярод іншых вылучыў.

Пасада была ў астравецкім маштабе прыкметная, кіраўнічая. Меркавалася, каб займаў яе член партыі. Мне прапанавалі напісаць заяву...

Гэты момант у нашай размове істотны. У мяне далей цэлы кавалак жыцця аказаўся звязаны з партыйнай работай, і тут усё павінна быць зразумела. Я не зачытваўся на пачах працамі Леніна, не паўтараў кожныя пяць хвілінаў «прывід блукае па Еўропе». Але ў тыя гады існавалі пэўныя правілы гульні, і нікому нават у галаву не прыходзіла іх парушыць! Не таму, што баяліся, а таму што проста не ўяўлялі - а як жа інакш? Я пра партыйную кар'еру нават не думаў. Пра аўтобусы свае думаў, пра запчасткі, пра зімовае паліва, пра які-небудзь пад'ёмнік на трэці назіральнай яме думаў - а партыя... Гэта мімаходам, па прынцыпу «трэба - значыць, трэба».

(Працяг на стар. 2)

# Сямён Домаш пра палітыку і не толькі...

**(Працяг. Пачатак на стар. 1)**

У 73-м годзе Еўтуховіча перавялі начальнікам аўтакалоны ў Ваўкавыск, а мяне праз некаторы час прызначылі на ягонае месца. У 24 гады я стаў дырэктарам аўтабазы. Тады падавалася, што ўсё ідзе сваім належным парадкам, а зараз думаю - мама родная! Я ж па гадах яшчэ маладзён быў. А ў мяне ўжо чатырыста чалавек у падначаленні, я дэпутат райсавета, сябра райкама... І ўсё ў гаспадарцы круцілася, усё працавала. Прычым начальнікам я сябе зусім не адчуваў. Які начальнік - мы ж вунь з тым слесарам Федзем яшчэ нядаўна ноччу, у мароз, на карачках пад машынай поўзалі! Што я перад ім нос буду задзіраць?

Ну вось... Дырэктарам Аўтабазы я прабыў два гады - і тут мне прапаноўваюць паступаць у Вышэйшую партыйную школу. Самі разумееце, ад такіх прапановаў не адмаўляліся. І я не адмовіўся.

## «Дурняў на партработу не бралі...»

***- Ёсць два меркаванні наконт партыйнага апарату той пары. Першае - гэта было лішняе звяно ў сістэме кіравання, прычым звяно з неапраўдана вялікімі паўнамоцтвамі і не самае кваліфікаванае; урэшце, «дзякуючы» яму СССР прыйшоў да крызісу. І другое - партработнікі райкамаўскага ўзроўня, людзі з галіновых аддзелаў (прапагандысты ды ідэолагі не ў лік) былі проста нармальнымі менеджэрамі-кіраўнікамі, якія на сваім участку забяспечвалі работу дзяржаўнага механізму, але толькі пры гэтым ім належала яшчэ гаварыць рытуальныя словы пра перамогу камунізму... На Ваш погляд - які пункт гледжання больш слушны?***

- Давайце так... Дурняў на партработу не бралі. Я іх, прынамсі, там не сустракаў. Былі розныя людзі - прыстойныя ці падлюгі, кар'ерысты ці рабацягі, - але дурняў не было. Калі хочаце, гэта была самаабарона сістэмы - не ўключаць у свае шэрагі тых, хто можа яе скампраметаваць дурасцю. Каго бралі, напрыклад, у партшколу? (Мяркую па сваіх сакурсніках). Перспектыўных... Людзей, якія выяўлялі лідарскія якасці... Патэнцыйных кіраўнікоў... Натуральна, мелася перадумовай абсалютная лаяльнасць у дачыненні да ўлады і ідэальна чыстая анкета.

Падрыхтоўку партшкола давала добрую. Адукацыя лічылася вышэйшай палітычнай, але на самой справе... Я потым яшчэ заканчваў завочна наргас - дык вось узровень некаторых лекцыяў па эканоміцы і кіраванні ў партшколе быў нават вышэйшы, чым у ВНУ.

Я лічу, што КПСС загубілі дзве рэчы: празмерная цэнтралізацыя ды канцэнтрацыя ўлады і ваяўнічы атэізм. Цэнтралізацыя ўлады прывяла да таго, што сістэма стала абсалютна нягнуткай. Партыя дыктавала ўсё і ўся. Пакідала за сабою канчатковае рашэнне па любому пытанню. Задачы ставіліся недзе наверсе, у ЦК, і падлягалі няўхільнаму выкананню - нават, калі яны былі няправільнымі. Кантраляваў выкананне ўсё той жа партыйны апарат. Але хто загадвае, хто прымушае працаваць, той і адказвае - так? У выніку людское нездавальненне супраць партыі ж і скіроўвалася. Пры гэтым партыйная вярхушка ўсё больш адрывалася ад рэальнага жыцця, ператваралася ў нейкіх «жыхароў неба», замкнёную касту, якая жыла ў лепшых дамах, адпачывала на асобных летніках... Плюс каласальная ідэалагічная эрозія. У ранейшыя ідэалы ўжо ніхто не верыў, камуністычныя святыя ператвараліся ў персанажаў анекдотаў. Тут бы вярнуцца да тых вечных каштоўнасцяў, якія прапануе рэлігія, - усё роўна за тысячы гадоў чалавецтва нічога лепшага не вынайшла. Аднак увесь прагандысцка-ідэалагічны апарат з тупой упартасцю працягваў абслугоўваць непрацуючыя міфы. Ці трэба здзіўляцца, што наспеў крызіс?

> ***«Домаш паводле поглядаў - сапраўдны асцярожны цэнтрыст, аднак пэўныя медыі імкнуцца прыляпіць яму лэйбл «паміркоўнага нацыяналіста» і «правага палітыка», а таксама «крэатуры палітычных партыяў».***
>
> **«Наша Ніва»**

***- Калі Вы асабіста ўсё гэта пачалі разумець?***

- Я нармальны чалавек, і да сваіх сённяшніх думак ішоў вельмі доўга. Іншая справа, што ўсведамленне нейкіх рэчаў пачалося ў той жа партшколе. Там было некалькі выкладчыкаў, якія... Не, лекцыі яны чыталі тыя, што належала. Але ў перапынках, у прыватных гутарках, выказваліся досыць вольна. Некалькі мімаходам кінутых словаў вымушалі задумацца. А што датычыць атэізму... У мяне бацька і маці - цудоўныя людзі, пры гэтым глыбока веруючыя. І я заўсёды разумеў, што іх мараль грунтуецца на рэлігіі. «Бог дазваляе...», «Бог забараняе...», «не рабі людзям зла», «абыходзься з людзьмі так, як хочаш, каб абыходзіліся з табой»... А нам казалі, што гэта прыкмета адсталасці, перажытак...

***- Але ж Вы самі на партыйную работу пайшлі.***

- Пайшоў. Пад пісталетам ніхто не гнаў, але быў загад, і я яму падпарадкаваўся. Тады я ўжо жыў у Гродне, камандаваў там аўтакамбінатам N1 - між іншым, адным з буйнейшых у рэспубліцы. Справы ішлі досыць няблага. І вось, у 1982 годзе мяне нечакана выклікаюць у гаркам і кажуць: маўляў, прынята рашэнне.., Вы добры кіраўнік.., зноў жа партшкола за плячыма.., увогуле з такога-та чысла мы Вас зацвярджаем у сябе ў якасці загадчыка прамыслова-транспартнага аддзела гаркама партыі. Я - пык-мык, а мне: так трэба.

На самой справе, мая партыйная служба была не столькі партыйная, колькі проста гаспадарчая. І калі з загадчыка аддзела гаркама мяне выбралі другім сакратаром Кастрычніцкага райкама ў Гродне, то курыраваў тую ж прамысловасць, транспарт, сферу абслугоўвання... Вельмі спатрэбілася, калі ўзначаліў гарвыканкам у Лідзе: праблемы гарадской гаспадаркі ўжо былі добра знаёмыя.

## Ці памятаюць Домаша ў Лідзе?

***- Пару тыдняў таму «Рэзананс» паказаў сюжэт з Ліды: чапляліся да гараджанаў з пытаннем «ці памятаюць яны Домаша?». Тыя адказвалі адмоўна. Пачуўся яхідны каментар: нішто сабе мэр, які нічым гараджанам не запомніўся. Значыць, нічога для горада не зрабіў!***

- Мне з Ліды потым дзесяткі абураных людзей тэлефанавалі: як яны могуць! Сюжэт «Рэзананса» - подлы прыём. Подлы, таму што я ў Лідзе працаваў з 1987 па 1990 год. Адзінаццаць гадоў таму! Вы памятаеце, хто 11 гадоў таму быў менскім мэрам? А калі спытаць у зусім маладога чалавека?

Цяпер пра тое, што Домаш для горада зрабіў. Я заняў пасаду, калі ў горадзе назапасіўся цэлы шэраг праблемаў. Вады, напрыклад, не хапала катастрафічна. Памятаю, свой першы ў Лідзе Новы год не мог па-людску сустрэць: тэлефон разрываўся. У святочны дзень разбор вады рэзка падвышаецца, пачаліся перабоі. А каму ўзлавана гараджанін тэлефануе, калі ў самы адказны момант краны высахлі? Канечне, мэру на кватэру - тэлефон жа свой я не ўтойваў. Затое наступны Новы год ужо прайшоў спакойна: праблема была вырашаная. Па сваіх каналах я дамовіўся з «Прамбурводам», прабіў у Саўміне мэтавае фінансаванне (што, між іншым, было зусім няпроста), заклалі новыя свідравіны, узвялі ачышчальныя збудаванні - наогул, вырашылі пытанне раз і назаўсёды. Далей - цеплазабеспячэнне. Частка горада зімою мерзла. Неяк цэлая абураная дэлегацыя ўвалілася, пагражала дзяцей да мяне дахаты прывесці грэцца. Прычым, само пытанне было вырашаемым, варта было толькі перакласці цеплатрасу, замяніць трубы на большы дыяметр. Але для гэтага патрабавалася надоўга перакрыць цэнтральную вуліцу, галоўную транспартную артэрыю. Гэта значыць, стварыць масу новых праблемаў. Ніхто не адважваўся. Я рызыкнуў. Некалькі месяцаў, сціснуўшы зубы, прымаў на сябе людскі гнеў - ужо за перакапаны горад. Затое ўзімку ў дамы пайшло цяпло. Ды што там! Узноўленае будаўніцтва новага Палаца культуры, помнік Міцкевічу, пастаўлены па просьбе польскай абшчыны (мяне за яго абвінавацілі ў патуранні нацыяналістам), елка з ілюмінацыяй у гарадскім парку, пад якой палова Ліды дагэтуль гуляе на Новы год... Пры гэтым жыллёвае будаўніцтва ішло без перабояў, транспарт функцыянаваў, завоз у магазіны забяспечваўся, - словам, гарадская гаспадарка працавала нармальна.



**У вольны час Сямён Домаш любіць пабыць з чатырохгадовым унукам Арцёмам**

## Расея, якую мы не губляем

***- Вы былі выдатна ўпісаныя ў тагачасную сістэму. Мабыць, крушэнне Савецкага Саюзу стала для Вас трагедыяй?***

- Тут не трагедыя, тут іншае... Адчуванне, што адыходзіць нешта звыклае, без чаго спярша давядзецца вельмі цяжка, але зрабіць нічога не можаш, натуральная хада падзеяў, інакш нельга... Не паверыце, але гаспадарнікі, накшталт мяне, хісткасць той сістэмы разумелі лепей за іншых. Ну не можа ўстаяць дзяржаўная канструкцыя, дзе немагчыма нават цэглу пакласці без дазволу з Масквы! Аднак адганялі ўтрапёныя думкі, працавалі, як маглі... Але прыйшоў Гарбачоў, перабудова... Усё імпэтна пасыпалася. Ці мог быць разлом не такім адчувальным. Напэўна, мог - калі б крамлёўскае кіраўніцтва прапанавала іншую схему дзяржаўнага кіравання. Вось ЗША - вялізная краіна. Пры гэтым стройная юрыдычная схема: федэральныя законы.., законы штата...ў кожнага свае, прынятыя з улікам мясцовых умоваў.., мясцовае самакіраванне... І ніхто не хоча адасабляцца! Не выключана, што і ў нас усё пайшло б інакш, калі б у патрэбны момант рэспублікам далі крыху болей волі. Гэты варыянт, я ведаю, калісьці прапаноўваў Маскве Бразаускас: некалькі галоўных накірункаў - такія, як абарона, знешняя палітыка, энергетыка, экалогія, транспарт, космас - у падначаленні саюзнага кіраўніцтва, а астатняе аддаць на месцы. Не прынялі. У выніку адасобіліся Літва, Грузія, потым астатняя Прыбалтыка. І пакацілася... Хаця, канечне, заднім розумам усе моцныя. Тады супалі пікі некалькіх крызісаў: ідэалагічнага, палітычнага, эканамічнага... Узгадайце павальны дэфіцыт у магазінах, прыгадайце момант, калі ў Саюзе элементарна грошай не хапала, і кожная рэспубліка пачала друкаваць свае «разліковыя білеты». Не з распаду ж СССР пачаўся эканамічны крызіс, а наадварот - падзел вялікай дзяржавы быў спробай «разруліць» сітуацыю, знайсці нейкае рашэнне.

***- І, тым не менш, Вы зараз змагаецеся за інтэграцыю з Расеяй...***

- Так. За ўсямерную і максімальную эканамічную інтэграцыю з Расеяй. Не трэба думаць, што апрача Лукашэнкі, ніхто не бачыць, дзе нашыя галоўныя дзелавыя партнёры, дзе нашыя самыя перспектыўныя рынкі. Але я катэгарычна супраць адзінай дзяржавы. Гэта танны палітычны жэст, які закладае міну і пад Беларусь, і пад Расею. Так, народы-браты. Але, паслухайце, колькі можна братам жыць у адным пакоі? Яны выраслі, пасталелі, у кожнага свая сям'я, дзеці... Тут ужо сумеснае пражыванне аднойчы можа ўзарвацца такім скандалам - навекі пасварацца! Іншая справа, калі ў кожнага свой дом, і абодва адзін аднаму дапамагаюць. Расейска-беларускія адносіны павінны будавацца на прынцыпах традыцыйнага добрасуседства, узаемапавагі ды здаровага сэнсу. Напрыклад, дзве суверэнныя краіны распрацоўваюць агульную праграму вырашэння экалагічных праблемаў. Ці разам вырашаюць задачу сацыяльнага забеспячэння пенсіянераў - усё-такі, гэта людзі, якія змагаліся з фашызмам, аднаўлялі народную гаспадарку, і не іх віна, што зараз яны жывуць у розных краінах. Пра эканамічнае супрацоўніцтва і казаць няма чаго... Але ўсё гэта - без страты нашай незалежнасці!

## Пра наша жыццё

***- Што Вы лічыце галоўнай праблемай сённяшніх беларусаў?***

- Прыцярпеласць. Людзі гавораць - ай, жывем жа, навошта нешта змяняць! Круцімся неяк, падпрацоўваем - усё нармальна. Але давайце паглядзім: смяротнасць у Беларусі перасягае нараджальнасць. Гэта нармальна? Усе заробкі-прыробкі ідуць на ежу, на ўнітаз. Многія ўжо забыліся, што такое тэатр, кіно, водпуск з выездам на адпачынак. Гэта нармальна? Сельская гаспадарка «ляжыць», трохі больш сонца ці дажджу летам - і ў нас пад пагрозай харчовая бяспека. Гэта нармальна? Заводы працуюць на склады, сабекошт прадукцыі зашкальвае, мы ўжо амаль нічога не можам прапанаваць заходняму рынку. Гэта нармальна? Але ж Лукашэнка ва ўладзе ўжо сёмы год! Хоць адна наша праблема за гэтыя гады вырашылася? Дык, можа, курс узяты няправільны? І калі нічога не змяняць - яшчэ глыбей у багне загразнем.

***- Як лічыце - «людзі ўлады» гэта разумеюць? А калі разумеюць - чаму нічога не прадпрымаюць?***

- Канечне, разумеюць. Але...Лукашэнка ж адраджае ў краіне тую самую савецкую сістэму, па якой многія, не ўмеючы ці не жадаючы аналізаваць, настальгуюць. А сістэма - я ўжо казаў пра гэта - урэшце сама сябе знішчыла. Але сістэма гэтая, як у крывым люстэрку, скажоная і даведзеная да крайнасці. Тады ўсё замыкалася на ЦК, зараз - на самім Лукашэнку. Пры гэтым, ён гатовы заплюшчыць вочы на тое, што які-небудзь вертыкальшчык пацыху крадзе. Няхай сабе, абы быў лаяльны! Так ствараецца вузкі пласт багатых людзей: улада, бізнесмены, якія ў яе «пад дахам», абслуга... Прывілеяванае саслоўе, як некалі партапарат. Але, крый Божа, нават самаму чэснаму чыноўніку хоць неяк абурыцца сітуацыяй у краіне! (А ўжо выявіць сімпатыі да апазіцыі - гэта наогул падпісаць сабе вырак). Любы гаспадарнік сёння аблытаны інструкцыямі, дэкрэтамі, забаронамі значна болей, чым у савецкія часіны. Завесці на яго ў выпадку чаго крымінальную справу - хвіліннае пытанне. Нармальных людзей з кіраўнікоў гэта страшна раздражняе. Крадуць жа не ўсе! А адчуваць сябе на вечным кручку - прыемнага мала.

***- Можна нешта зрабіць?***

- Можна. І не трэба нічога рубіць наводмаш, дзяліць, адбіраць - гэта толькі створыць лішняе напружанне ў грамадстве. А вось пачаць аслабляць аброць, даваць не толькі «сваім», але і ўсім астатнім новыя, легальныя і чэсныя магчымасці зарабляць - цалкам рэальна. І пакінуць, нарэшце, палохаць людзей Захадам! Трэба пакінуць шукаць ворагаў як у сябе ў краіне, так і за яе межамі.

***- У тым жа «Рэзанансе» прагучала, што Домаш на выбары ідзе ад БНФ...***

- Аднак я ў газетах чытаў што ад БНФ будзе вылучацца Пазьняк. А зрэшты, колькі можна тлумачыць: Домаш - не з БНФ. Домаш ідзе на выбары як незалежны кандыдат, якога вылучае аб'яднанне «Рэгіянальная Беларусь», зусім іншая структура. Іншая справа, калі да мяне прыходзяць людзі з Фронту ці з іншых партыяў і кажуць: «Сямён Мікалаевіч, мы гатовыя Вас падтрымаць» - я іх што, гнаць павінен?

***- Як думаеце, Вашыя тэлефоны праслухоўваюць?***

- Не сумняваюся. І не толькі тэлефоны. Але мне баяцца няма чаго, я законаў не парушаю.

**Мы знарок не закраналі ў размове праграму, з якой Сямён Домаш хоча пайсці на выбары. Навошта наперад забягаць? Прэзідэнцкая кампанія яшчэ не распачатая ды і ці будзе яна? Проста дадамо яшчэ нейкія дэталі, што засталіся за рамкамі гэтага інтэрв'ю.**

**Домаш ганарыцца тым, што ўжо шмат гадоў трымае сталую вагу - 86 кілаграмаў: «Мужчыну жывот распускаць не пасуе». Быць у форме дапамагае рэгулярная атлетычная гімнастыка з абцяжарваннямі. Не курыць. Часта чытае Біблію. З фільмаў, якія апошнім часам бачыў, вельмі спадабаўся «Гладыятар». А ўвогуле, любіць старыя савецкія камедыі з Віцыным, Нікуліным і Маргуновым.**

**Гутарку вёў**
**Сяргей Манастырскі**
**(газета «Рабочы»)**

 



## 15 сакавіка - Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь

**15 сакавіка 1994 года кваліфікаванай большасцю дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь была прынята пятая беларуская Канстытуцыя (1919, 1927, 1937, 1978 гг.) і першая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы, якая валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі ды самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку.**

З 9-га па 24-е лістапада 1996 года праводзіўся так званы «рэспубліканскі рэферэндум», у выніку якога сутнасць Канстытуцыі Беларусі ад 15 сакавіка 1994 года цалкам змененая. Фактычна з'явіўся новы Асноўны Закон, пры гэтым са шматлікімі парушэннямі ў ходзе рэферэндумнага працэсу. Канстытуцыя Беларусі са зменамі і дапаўненнямі замацоўвае своеасаблівую толькі для Беларусі «сістэму стрымак і процівагаў - падзел уладаў». Беларусь, у адпаведнасці з Канстытуцыяй са зменамі і дапаўненнямі, - рэпубліка ўжо не прэзідэнцкая, а змешаная. Аднак прэзідэнцкія паўнамоцтвы ахопліваюць «чамусьці» ўсе галіны ўлады. Прэзідэнт згодна з часткай 2 артыкула 79 Канстытуцыі са зменамі і дапаўненнямі, ажыццяўляе пасярэдніцтва між дзяржаўнымі органамі... У параўнанні з Канстытуцыяй без зменаў і дапаўненняў, прэзідэнт пашырыў паўнамоцтвы. Ён цяпер аднаасобна:

1) прызначае рэспубліканскія рэферэндумы;

2) прызначае выбары Парламента, мясцовых прадстаўнічых органаў;

3) выдае часовыя дэкрэты, роўныя закону, пры гэтым у заканадаўчай сферы;

4) штогод удакладняе сваім указам бюджэт, прыняты Парламентам;

5) часткова ўтварае Канстытуцыйны суд, Цэнтральную камісію Беларусі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў;

6) вырашае пытанні адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу;

7) прымае рашэнне наконт амністыі ды памілавання;

8) устанаўлівае дзяржаўныя святы і святочныя дні і гэтак далей (звярніце ўвагу на артыкул 84 Канстытуцыі са зменамі і дапаўненнямі ды параўнайце з артыкуламі 83 і 100 Канстытуцыі без зменаў і дапаўненняў).

Яшчэ зусім нядаўна (да 1997 года) 15 сакавіка было чырвоным днём у календары, дзяржаўным святам. Сёння ж гэта звычайны дзень... А сапраўды, што святкаваць? Канстытуцыя ж напісана пад аднаго чалавека, пры гэтым без прыцягнення вядучых спецыялістаў у галіне канстытуцыйнага права і прынятая са шматлікімі парушэннямі...

Аднак святкаваць ёсць што. 15 сакавіка - Дзень прыняцця першай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у аснову якой была пакладзеная Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, прававая аснова будучыні Беларусі.

**Кацярына Зволін**

## «Вечны сімвал дружбы народаў» наказаў доўга жыць



**Пачало развальвацца пано «Птаства», што на доме №6 па вуліцы Савецкай. Шаснаццаць птушак, кожная з якіх сімвалізуе адну нацыянальнасьць, што пражывае на Гарадзеншчыне, былі замоўленыя гарвыканкамам да леташняга Фестываля нацыянальных культураў. На ўрачыстым адкрыцьці твору адзін з чыноўнікаў заўважыў, што гэтае пано стане «вечным сімвалам дружбы народаў». Не прайшло і году, як «вечны сімвал», які абыйшоўся нашаму гораду ў суму, блізкую да 10 тысячаў даляраў, стаў рассыпацца на кавалачкі.**

Першыя кавалкі жоўценькай тынкоўкі пачалі сыпацца яшчэ ў сярэдзіне мінулага тыдня. Адшчэпкі пано прыбралі зь зямлі толькі ў панядзелак вечарам. У аўторак плошча пашкоджаньня была блізкая да квадратнага метру. А камунальныя службы нават нічога не заўважылі! ПАГОНЯ першай прынесла вестку пра гэта ў жыльлёвае рамонтна-эксплуатацыйнае ўпраўленьне Ленінскага раёну.

- А можа, гэтае пано ветрам пашкодзіла? Ведаеце, якое яно цяжкае? - выказаў здагадку Мікалай Буцько, намесьнік начальніка ЖРЭУ, і патэлефанаваў у ЖЭС №5, на тэрыторыі якога знаходзіцца будынак з пано. Там таксама яшчэ не ведалі, што сьцяна дома №6 абвальваецца.

Уладзімір Анісімаў, галоўны архітэктар гораду, запэўніў нашага карэспандэнта: «Мы занимаемся этим вопросом». Пытаньне адносна прычынаў абвалу кавалку сцяны чамусьці вывяла спадара Анісімава з сябе:

- Каб даведацца прычыну, трэба ўзяць лесьвіцу, залезьці й паглядзець.

Глядзець, шаноўны спадар галоўны архітэктар, трэба было раней, калі сьцяну рыхтавалі й цэмент замешвалі.

Найбольш верагодную прычыну пашкоджаньня пано выказаў аўтар праекту, мастак Аляксандар Сільвановіч:

- Відаць, віноўніцай стала вадасьцёкавая труба. Якасьць стыкаў такая, што вада ўвесь час сьцякала на тынкоўку. Прывесьці ў парадак пано не будзе цяжка, вось толькі трэба будзе перарабіць навіслы казырок дому і нешта прыдумаць з гэтай трубой.

Мастак упэўнены, што ягонае тварэнне будзе жыць яшчэ доўга. Агаворваецца толькі, што існуе нейкі архітэктурны праект, па якім да дому №6 будзе прыбудаваная вежа. Акурат да той сьцяны, на якой знаходзіцца пано. Але гэта будзе не раней, чым праз гадоў дзесяць. Да таго часу «птушкі» павінны датрываць.

**Юлія Дарашкевіч**

**На здымку: Хацелі, як лепей – атрымалася, як заўсёды...**

## Хочаш у Польшчу? Купі візу!

**На мінулым тыдні прайшлі кансультацыі паміж міністэрствамі замежных справаў Польшчы і Беларусі на ўзроўні начальнікаў консульскіх упраўленняў. Прычына - магчымасць уводу візавага рэжыму паміж Польшчай і Беларуссю.**

Польскім бокам было заяўлена пра намер разгледзець магчымасць уводу візавага рэжыму пасля летняга турыстычнага сезону. Арыенціровачная дата ўвядзення візавага рэжыму паміж Беларуссю і Польшчай - першага кастрычніка 2001 года. Адсутнасць мяжы паміж Расейскай Федэрацыяй і Беларуссю ставіць нашыя інтарэсы ў залежнасць ад інтарэсаў Расеі. Так што, хутчэй за ўсё, канчатковая дата ўвядзення візавага рэжыму паміж Беларуссю і Польшчай супадзе з датай увядзення візавага рэжыму між Расейскай Федэрацыяй і Польшчай. Па выніках візіту міністра замежных справаў Расейскай Федэрацыі спадара Іванова ў Польшчу на пачатку бягучага года была дасягнута дамоўленасць, што да першага верасня 2001 года візавы рэжым паміж Польшчай і Расеяй уводзіцца не будзе.

Калі дакладная дата ўвядзення візавага рэжыму з Польшчай канчаткова не вызначаная, то ўстанаўленне візавага рэжыму з Венгрыяй плануецца ўжо канчаткова на першае чэрвеня 2001 года. Адпаведна словам прэс-сакратара Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Беларусь Паўла Латушкі, беларускае знешнепалітычнае ведамства атрымала ад амбасады Венгрыі афіцыйнае паведамленне наконт таго, што гэтая дзяржава плануе ўвесці візавы рэжым з Беларуссю з першага чэрвеня 2001 года.

На нашу думку, чытачоў ПАГОНІ зацікавіць і наступная інфармацыя. З 25 сакавіка 2001 года Данія, Ісландыя, Нарвегія, Фінляндыя, Швецыя становяцца ўдзельніцамі Шэнгенскіх пагадненняў. Гэта азначае, што паміж узгаданымі дзяржавамі ды Аўстрыяй, Бельгіяй, Грэцыяй, Гішпаніяй, Італіяй, Нідэрландамі, Германіяй, Люксембургам, Партугаліяй і Францыяй (удзельнікі Шэнгенскай зоны) не будзе ажыццяўляцца памежны кантроль.

Застаецца толькі спадзявацца, што калі-небудзь і Беларусь далучыцца да Шэнгенскіх пагадненняў. Пакуль жа ў нас працэс адваротны.

І апошняе. З першага сакавіка між Грузіяй і Расейскай Федэрацыяй устаноўлены візавы рэжым. Так што візавы рэжым паміж Беларуссю і Грузіяй - амаль ужо рэальнасць. Да таго ж, ходзяць чуткі, што з першага студзеня 2002 года будзе ўстаноўлены візавы рэжым між Украінай і Расейскай Федэрацыяй, а як працяг - і з Беларуссю. Такім чынам, бязвізавы рэжым у Беларусі застанецца толькі з некаторымі ісламскімі дзяржавамі Садружнасці Незалежных Дзяржаваў.

Свабодная дарога толькі на ўсход!

**Сяргей Міронаў**

## «Трэба змяняць прэзідэнта, а не сходы збіраць»

**Пасля выхаду нумару ПАГОНІ з публікацыяй пра II Усебеларускі сход, абвешчаны А.Лукашэнкам, у праграмах беларускага тэлебачання неаднаразова з'яўляліся выказванні, маўляў, апаганілі выдатную ідэю. «Рэзанатары» сцвярджаюць, што сход збіраецца для народа, і народ актыўна яго падтрымлівае. Ці сапраўды гэта так, мы паспрабавалі высветліць непасрэдна у гарадзенцаў.**

**Святлана Навіцкая, майстар вучэбна-вытворчага камбіната:**

- Ведаю, што нашыя надзённыя пытанні ён не вырашыць. Дастатку ў нас не будзе.

**Настаўнік (назвацца не захацеў):**

- Я выкладаю гісторыю, таму разумею, што сход - гэта палітычная акцыя, якая патрэбная сёння пэўным людзям.

**Сяргей, гандлюе тэхнікай:**

- Такі сход можа адбывацца хоць кожны месяц, але нічога рэальна ён не зменіць. Гэта проста чарговая «паказуха».

**Віктар, прадавец у краме «Мір»:**

- Будзе сход - не будзе яго, нічога ён не вырашыць. Адно застанецца нязменна: прэзідэнт - Аляксандр Лукашэнка. Кожнаму зразумела, што з'езд адмыслова робіцца перад выбарамі.

**Любоў Мікалаеўна, пенсіянерка:**

- Думаю, нешта ж вырашыць, раз збіраецца. Хаця дакладна я Вам сказаць не магу, бо палітыкай мала цікаўлюся - болей на лецішчы сяджу.

**Алена, студэнтка беларускага аддзялення філфака ГрДзУ:**

- Пра сход ведаю мала, але спадзяюся, што калі дэлегаты будуць настроеныя працаваць, то гэта павінна мець плён. А народныя грошы лепш няхай пойдуць на сход, чым на будынiны для «высокапастаўленых асобаў».

**Пенсіянер (назвацца не захацеў):**

- Не магу сказаць: зробіць што сход ці не. Зараз наогул нічога не зразумееш. Для мяне важна, каб Лукашэнкі не было, бо гэта - прайдзісвет.

**Васіль Валашчук, загадчык кафедры класічнай філалогіі ГрДзУ:**

- Нічога не чакаю ад гэтага з'езда. Ён збіраецца дзеля таго, каб падтрымаць прэзідэнта. Нам зараз трэба прэзідэнта змяняць, а не сходы збіраць.

**З народам размаўляла Алеся Сідлярэвіч**

## У беларускіх азёрах знікае шчупак

**З першага сакавіка да канца месяца дзейнічае забарона на ўлоў шчупака ў вадаёмах Беларусі. Уведзеная яна ў сувязі з тым, што на працягу сакавіка шчупак нерастуе.**

- У гэты час пад уплывам інстынкту рыба губляе пільнасць, у вялікай колькасці збіраецца на месцах нераставання і становіцца лёгкай здабычай для браканьераў, - тлумачыць Ігар Малевіч, вядучы спецыяліст Гарадзенскай абласной інспекцыі Камітэта рыбааховы.

Днямі Гарадзенская міжраённая інспекцыя рыбааховы накіравала ў ваўкавыскую пракуратуру справу ваўкавыскіх браканьераў. У пачатку сакавіка трох жыхароў Ваўкавыска заспелі на гарачым на рацэ Расянка. Яны лавілі рыбу электравудай. Ліхадзеі ўжо сплацілі 462 тысячы рублёў урону, нанесенага імі рыбнай гаспадарцы краіны. Калі пракуратура распачне крымінальную справу, то браканьерам пагражае два гады пазбаўлення волі ўмоўна ці штраф да 100 мінімальных заробкаў. Гэта самы буйны выпадак браканьерства ў пачатку года, а ўвогуле па Гарадзенскай вобласці за два першыя месяцы 2001 года зафіксавана 106 выпадкаў парушэння правілаў рыбнай лоўлі.

- Рыбы ў нашых вадаёмах зараз не багата, - сцвярджае спадар Малевіч, - а шчупака апошнім часам стала зусім мала.

Па прыкладных падліках улоў шчупака складае два працэнты ад усяго ўлову рыбы.

- Гіне ікра шчупака, - гаворыць Ігар Малевіч. - Ён звычайна нерастуе на неглыбокіх месцах, дзе цяплей вада. Але ў апошняе дзесяцігоддзе практычна не было нармальнай паводкі. І ўжо гады два-тры ў сакавіку адбываюцца рэзкія перапады тэмпературы. Да таго ж, шмат рыбы вынішаюць браканьеры, хоць мы часта дзяжурым на месцах нераставання.

Пакуль аматары вудзільнаў, якія маюць грошы, ездзяць парыбачыць у Расею. Найлепш бярэцца рыба, кажуць, у Карэліі.

Забарона на ўлоў іншай рыбы у вадаёмах Беларусі, якая нерастуе ўвесну, паводле папярэдніх звестак будзе ўведзеная з першага красавіка.

**Марыя Тапілеўская**

 

# Гродна прыме другі тур «NEBL Challenge Cup»

**Другі тур адборавага турніру Паўночнаеўрапейскай баскетбольнай лігі «NEBL Challenge Cup» у групе «Е» пройдзе ў Гродне 26 і 27 сакавіка.**

Акрамя гарадзенскіх баскетбалістаў «Гродна-93», у групу «Е» ўваходзяць: нямецкая каманда «Олівер» (Вюрцбург), чэшская УСК «Эрпэт» (Прага), расейскі «Спартак» (Санкт-Пецярбург).

Гульні павінны адбыцца ў Лядовым палацы, дзе будзе пакладзены баскетбольны паркет. Не, гарадзенцы яго не купілі. Паркет, на час гульняў, прадаставіў Шарунас Марчулёніс, які займае пасаду камісіянера ПЕБЛ.

26.03 сустракаюцца - «Спартак» - «Олівер» у 18.00; 27.03 ў 18.00 сустрэнуцца прайграўшыя каманды ў першы дзень, а ў 20.00 - пераможцы. Толькі лепшая каманда групы «Е» трапіць у «Фінал чатырох».

# Нягледзячы на паразу, «Нёман» можа стаць першым

**Хакеісты гарадзенскага «Нёмана» нечакана хутка скончылі свае выступленне УЕХЛ. У чвэрцьфінале наша каманда саступіла не самай моцнай камандзе «Рыга» з Латвіі.**



Рыжане, якія ў рэгулярным сезоне УЕХЛ занялі толькі сёмае месца, здолелі двойчы запар перамагчы «Нёман».

У першай гульні ў Рызе «Нёман» саступіў даволі лёгка - 6:3. У гарадзенцаў адзначыліся: Павал Варывончык (двойчы) і Аляксандр Чурабаеў.

Не дапамог нёманцам і свой «лёд», калі праз тры дні яны прымалі ў адказ рыжанаў. Валодаючы амаль на працягу ўсёй гульні ініцыятывай, гарадзенцы (дзякуючы закінутай шайбе абаронцы Алега Цэцерава за шэсць секундаў да заканчэння асноўнага часу) здолелі правесці гульню ў дадатковую дзесяціхвілінку.

На жаль, але ж у овертайме «Нёман» не здолеў «даціснуць» разгубленага суперніка. Лік так і застаўся 2:2. А ў серыі пасляматчавых булітаў гарадзенскія хакеісты не здолелі ні разу «распячатаць» браму Рыгі, у той час, калі рыжане двойчы рэалізоўвалі выхад «сам-насам» і саступілі 2:3.

Цяпер у гарадзенцаў засталася адна магчымасць стаць першымі - толькі ў чэмпіянаце Беларусі, дзе яны з'яўляюцца лідарамі пасля 17-ці тураў, апярэджваючы «Менск» на чатыры ачкі ды маючы адну гульню ў запасе.

У 1/2 фінала Кубка УЕХЛ сустракаюцца «Рыга» - «Менск» і «Металург» - «Беркут».

# Да футбола ў Гродне застаўся месяц

**На «Кубку машынабудаўнікоў», які скончыўся на мінулым тыдні, гарадзенскі «Нёман» заняў другое месца. Пераможца вырашаўся ў апошняй гульні турніру, калі сустракаліся мясцовы «Нёман» з «Тарпеда» (Жодзіна). Жодзінцам было дастаткова згуляць у нічыю, каб апярэдзіць «Нёман» па лепшай колькасці забітых мячоў, што яны і зрабілі, згуляўшы з лікам 2:2. Вынікі гэтага турніру каментуе старшы трэнер «Нёмана» Юрый Мазурчык.**

*- Юрый Эдуардавіч, якая задача стаяла перад камандай да пачатку Кубка?*

- Задачу перамагчы ў турніры ставілі ўсе трэнеры перад сваімі камандамі. Мы не выключэнне! Але ж адначасова з турнірам ішла падрыхтоўка да чэмпіянату Беларусі. Разам з гульнямі былі і трэніроўкі. Таму трэнерскаму штабу было цікава паглядзець, як будуць выглядаць футбалісты на фоне гэтай стомленасці. Бо за іх плячыма ўжо два месяцы цяжкай працы.

*- Як сябе праявілі на гэтым турніры навічкі «Нёмана»?*

- На такім футбольным фоне цяжка было ацаніць, хто на што здольны. Усе сілы ў футбалістаў ішлі на барацьбу са снегам. Калі б гульні праводзіліся на траве, тады б можна было ўбачыць іх тэхнічныя здольнасці.

*- І ўсё ж такі з кімсьці пасля Кубка «Нёман» заключыў кантракты?*

- Пакуль склад «Нёмана», у параўнанні з мінулым сезонам, не зведаў аніякіх зменаў.

*- Да пачатку нацыянальнага чэмпіянату ляжчэ каля месяца. Як плануеце правесці гэты час?*

- Запланаваны збор у Польшчы, пасля гуляем у Гарадзенскім абласным турніры, а там і пачатак чэмпіянату.

*- З гэтага сезону зноў уведзены чэмпіянат дублёраў. Хто будзе кіраваць «Нёманам-2» і хто ў ім будзе гуляць?*

- Галоўным трэнерам «Нёмана-2» з'яўляецца Мікалай Емяльянчык, якому дапамагае Аляксандр Жылюк. У склад гэтай каманды ўваходзяць маладыя футбалісты як гарадзенскай ДзЮСШ, так і прадстаўнікі іншых школаў нашай вобласці.

**Падрыхтаваў**
**Дзяніс Курчэўскі**

| Хатнія гульні «Нёмана» | | |
|---|---|---|
| **Тур** | **Даты гульняў** | **Каманды** |
| 2 | 15.04 (нядзеля) | «Гомель» (Гомель) |
| 4 | 6.05 (нядзеля) | «Нафтан-Дэвон» (Наваполацк) |
| 6 | 22.05 (аўторак) | «Лакаматыў-96» (Віцебск) |
| 8 | 14.06 (чацвер) | «Белшына» (Бабруйск) |
| 11 | 1.07 (нядзеля) | «Днепр-Трансмаш» (Магілёў) |
| 13 | 14.07 (субота) | «Шахцёр» (Салігорск) |
| 14 | 28.07 (субота) | «Дынама» (Менск) |
| 16 | 18.08 (субота) | «Дынама» (Брэст) |
| 18 | 16.09 (нядзеля) | «Ведрыч-97» (Рэчыца) |
| 20 | 30.09 (нядзеля) | «Тарпеда-МАЗ» (Менск) |
| 22 | 18.10 (чацвер) | «БАТЭ» (Барысаў) |
| 23 | 22.10 (панядзелак) | «Славія» (Мазыр) |
| 25 | 3.11 (субота) | «Маладзечна» (Маладзечна) |
| **Гасцявыя гульні** | | |
| **Тур** | **Даты гульняў** | **Каманды** |
| 1 | 11.04 (серада) | «Дынама» (Менск) |
| 3 | 28.04 (субота) | «Дынама» (Брэст) |
| 5 | 14.05 (панядзелак) | «Ведрыч-97» (Рэчыца) |
| 7 | 10.06 (нядзеля) | «Тарпеда-МАЗ» (Менск) |
| 9 | 21.06 (чацвер) | «БАТЭ» (Барысаў) |
| 10 | 25.06 (панядзелак) | «Славія» (Мазыр) |
| 12 | 7.07 (субота) | «Маладзечна» (Маладзечна) |
| 15 | 4.08 (субота) | «Гомель» (Гомель) |
| 17 | 9.09 (нядзеля) | «Нафтан-Дэвон» (Наваполацк) |
| 19 | 22.09 (субота) | «Лакаматыў-96» (Віцебск) |
| 21 | 10.10 (серада) | «Белшына» (Бабруйск) |
| 24 | 26.10 (пятніца) | «Днепр-Трансмаш» (Магілёў) |
| 26 | 7.11 (серада) | «Шахцёр» (Салігорск) |

Кубак Беларусі-2001/2002 - 26.08 (нядзеля) матчы 1/16 фінала, 14.10 (нядзеля) матчы 1/8 фінала

**Заўвага:** Матчы дублёраў праводзяцца напярэдадні гульняў асноўных складаў.

# «Люблю мой край...»

**Пад такой назвай 17 сакавіка моладзь Гродна правядзе конкурсна-літаратурныя чытанні з нагоды Сусветнага дня паэзіі, які міжнародная грамадскасць пад эгідай ЮНЕСКА будзе адзначаць 20 сакавіка.**

**Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца маладыя людзі 14-25 гадоў, што маюць ахвоту прачытаць уласныя вершы або творы іншых паэтаў, вывучаныя на памяць. Запрашаюцца таксама іхнія сябры і знаёмыя для падтрымкі маладых выступоўцаў. Пераможцаў у шматлікіх намінацыях, якіх вызначыць аўтарытэтнае журы і ўсе прысутныя, чакаюць узнагароды.**

**Конкурсныя чытанні адбудуцца 17 сакавіка (субота) па адрасу: Гродна, вуліца Карла Маркса,11 (першы паверх). Пачатак - а 17-й гадзіне. Рэгістрацыя ўдзельнікаў будзе адбывацца з 16.30 непасрэдна ў дзень правядзення конкурсу. Пры рэгістрацыі неабходна мець з сабою выразна напісаны ад рукі ці аддрукаваны тэкст твора, які будзе чытаць удзельнік. Заяўкі прымаюцца па тэлефоне: 72-29-96 (Павал).**

Язэп Ліцьвіновіч

# Сапраўдны мужчына ў тралейбусе N9



**Сёмае сакавіка. Вечар. Тралейбус N9. Вясёлыя мужчыны і заклапочаныя надыходзячым святам жанчыны. І тут...**

- Ад імя тралейбуснага дэпо віншую ўсіх жанчынаў, якія едуць у гэтым тралейбусе, са Святам 8 сакавіка. Жадаю дабрабыту, шчасця і прыгажосці!

Спачатку некалькі секундаў - паўза. Затым чароўная ўсмешка асвяціла аблічча ўсіх дзяўчатаў і кабетаў у тралейбусе. Ён ажно ўскалыхнуўся ад авацыяў. Было адчуванне, што ад нахлынуўшых эмоцыяў павылятаюць шыбы...

- Гэта мая ідэя, - распавядае Аляксандр Ткачоў, кіроўца «дзевяткі» з дзесяцігадовым стажам. - Мне падабаецца праца, і я люблю рабіць прыемнае людзям, тым больш жанчынам.

Бярыце прыклад, шаноўныя мужчыны! Бо парадаваць жанчынаў можна не толькі з дапамогай залатых пярсцёнкаў і норкавых футраў, а проста сказаць ім прыемныя словы.

**Юля Коцкая**
**На здымку:**
**Аляксандр Ткачоў**

# «Правінцыя» з Беластока

**Пазаўчора ў Беластоку выйшаў з друку доўгачаканы першы нумар літаратурна-мастацкага часопіса «Правінцыя». Выданне настолькі ўнікальнае, што мае стаць падзеяй N1 гэтага года ў беларускай культурнай прасторы.**

Часопіс, канцэпцыя якога абмяркоўвалася на літаратурнай канферэнцыі «Бязмежжа» ў лютым мінулага года, мае 166 старонак фармату А4 і каляровую ламінаваную вокладку. Тэксты друкуюцца па-беларуску, ёсць фотаздымкі аўтараў, а таксама кароткі змест публікацыяў на польскай і ангельскай мовах. Новае выданне заклікана падтрымаць беларускую культурную эліту па-за межамі Менска, пра што гаворыць сама назва часопіса. Галоўны рэдактар «Правінцыі» - Аляксандр Максімюк.

У выданні прысутнічаюць усе асноўныя жанры: паэзія, проза, пераклады, крытыка, эсэістыка і г.д. Сярод аўтараў - вядомыя беларускія літаратары «новай хвалі»: Сяргей Астравец, Анатоль Брусевіч, Юры Гумянюк, Эдзік Мазько (Гродна), Лявон Вашко (Масты), Мікола Ваўранюк, Міраслава Лукша (Беласток), Міхась Андрасюк (Гайнаўка), Алесь Аркуш, Вінцэсь Мудроў (Полацк), Ігар Сідарук (Кобрын) ды іншыя.

Да афіцыйнай прэзэнтацыі «Правінцыю» можна пачытаць у Інтэрнеце (http://pranincyja.republika.pl/.).

**Адам Гонар**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Рамантыкай і прыгодамі будзе напоўнены ўвесь гэты тыдзень. Удача на любоўным фронце натхніць Вас настолькі, што хатнія справы і праца адыдуць на другі план. Вясна!..

♉ **Бык (21.04-20.05).** Не зважайце на плёткі за Вашай спіною. Меркурый дапаможа Вам зрабіць правільны выбар у набыцці веснавых драбніцаў у крамах ці на рынку.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Перад Вамі адкрыюцца новыя магчымасці ды перспектывы. Надарыцца выпадак пазнаёміцца з уплывовымі людзьмі, апекавання і заступніцтва якіх Вам так не хапала.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Вас чакае прыемнае знаёмства. Суботні вечар правядзіце лепш у начным клубе ці рэстаране з каханым чалавекам, чым дома перад тэлевізарам або камп'ютарам.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Некаторыя падзеі гэтага тыдня могуць выклікаць у Вас віхуру эмоцыяў, збольшага станоўчых. Паклапаціцеся пра здароўе.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Вам няблага было б наведаць лазню, басейн - аздаравіцца. Пазбягайце ўскладненняў у сямейных адносінах.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Не паддавайцеся спакусе ў спробах высветліць: хто мае рацыю, а хто памыляецца. Калі ўдасца паспяхова абмінуць гэты падводны камень, Вас чакае прыемны сюрпрыз.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Рамантычнае веснавое спатканне з каханай(-ым) у выхадныя надасць Вам упэўненасці ва ўласнай чароўнасці ды абаяльнасці.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Не трэба вінаваціць сябе ва ўсіх смяротных грахах. Перачакайце да лепшых часінаў, пабераажыце нервы.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Вы залішне папрацавалі на мінулым тыдні? Што ж, пара расслабіцца і набрацца моцы.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Вы зачаруеце ўсіх сваёй імпазантнасцю і з царственным выглядам дазволіце ўцягнуць сябе ў рамантычныя вясновыя прыгоды.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Гэты тыдзень будзе ўнікальным па сваёй насычанасці. Уікэнд пройдзе проста цудоўна!

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 14.03.2001 г. Замова 893 Наклад 7 739

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей